# FABLES

The Eisner Award-Winning Series

ten years on the edge
VERTIGO X

issue 18 Dec 03
2.50 can 3.85

BILL WILLINGHAM
LINDA MEDLEY

SUGGESTED FOR
MATURE READERS
vertigocomics.com





ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3































... У велізарным кіраўніцтве Вудлэнда.






А **ТАБЕ** ТРЭБА МЕНШ ШУМЕЦЬ У НАСТУПНЫ РАЗ, КАЛІ ЎРЫВАЕШСЯ Ў МАЮ ХАТУ.

**АААЙ!**

ХІБА ТАБЕ НІХТО НЕ ТЛУМАЧЫЎ, ШТО СЭНС ТАГО, **КАЛІ КРАДЗЕШСЯ** Ў ТЫМ, ШТО ТЫ **КРАДЗЕШСЯ**?

І ЯК ТЫ ЗБІРАЎСЯ АДЧЫНІЦЬ **НАКРЫЎКУ** СЛОІКА?

ПАГЛЯДЗІЦЕ **СЮДЫ**!

Я ЗЛАВІЎ АДНАГО, БОЗЛІ! Я **ЗЛАВІЎ** АДНАГО!

**ГЭТЫ** ЎЗЛЕЗ НА САМЫ ВЕРХ ДА **СЛОІКА**!

ПАКОЙ МАЛЕНЬКІ, БУФКІН, НАПЭЎНА ТАБЕ НЯ ТРЭБА **ТАК** ГРОМКА ГАЛАСІЦЬ.

OW!


ТАК, ГЭТА Ж ЭДЗІ ПАДНОЖНЫ... ПРАМА З ФЕРМЫ, ВЫРАШЫЎ СКАРЫСТАЦЬ СВАЮ СПРОБУ ЗДАБЫЦЬ **ЯЧНЫЯ ЗЕРНІ**. МЫШЫНАЯ ПАЛІЦЫЯ **ПАПЯРЭДЗІЛА** МЯНЕ, ШТО ТЫ ДАСЯГНУЎ УЗРОСТУ.
ПАПЯРЭДЗІЛА? **ЗДРАДНІКІ!**
ЯК ТЫ ДАБРАЎСЯ СЮДЫ, ЭДЗІ?
ПРАКАЦІЎСЯ НА СПІНЕ АПОШНЯЙ НАЧНОЙ ПАСЫЛЬНАЙ ПТУШКІ.


НУ, СЁННЯ ЖА ТЫ І ВЕРНЕШСЯ ТОЙ ЖА ДАРОГАЙ. ЗРАБІ СПРАВАЗДАЧУ Ў **МЫШЫНАЙ ПАЛІЦЫІ**, КАЛІ ВЕРНЕШСЯ ДАДОМУ. А ПОТЫМ СЯДЗІ **СПАКОЙНА**.
**НЕСУМЛЕННА,** БОЗЛІ!


У ЦЯБЕ БЫЛА ТВАЯ АДНА СПРОБА ДАБІЦЦА СЛАВЫ І ПАШАНЫ, ТАКСАМА ЯК І Ў ТВАЙГО БАЦЬКІ, КАЛІ **ЯМУ** БЫЛО 18. І Ў ЯГО БАЦЬКІ ДА ЯГО.
ПАСПРАБУЕШ ЯШЧЭ РАЗ, І Я БУДУ ВЫМУШАНЫ ПРАД'ЯВІЦЬ ТАБЕ **АФІЦЫЙНАЕ** АБВІНАВАЧАННЕ.


ЗАБЯРЫ ЯГО АДСЮЛЬ, БУФКІН. ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ЁН **СЁННЯ ЖА** ДАБЯРЭЦЦА ДАДОМУ.
OINK!
ТАК ТОЧНА, БОЧНА, СТРАТАЧНА!


БОЗЛІ?
ММММ?
Я НЕ РАЗУМЕЮ. ТЫ АДПУСЦІЎ ГЭТАГА ХЛОПЧЫКА ПРОСТА З **ПАПЯРЭДЖАННЕМ**?


АГА. А ШТО?
ТЫ ПРЫЦЯГВАЕШ МЯНЕ КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ЛОВІШ НА ПАЯДАННІ МУХ, А ГЭТА ТОЛЬКІ ДРОБЯЗНАЕ ПРАВАПАРУШЭННЕ, АЛЕ СПРОБА ЎКРАСЦІ **МАГІЧНУЮ** РЭЧ З КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ – ГЭТА ЦЯЖКАЕ І МОЦНАЕ **ЗЛАЧЫНСТВА**.


ГЭТА **АСАБЛІВАЯ** СІТУАЦЫЯ. КОЖНЫ ХЛОПЕЦ У СМОЛТАЎНЕ СПРАБУЕ ЎКРАСЦІ ЧАРАДЗЕЙНЫЯ ЯЧНЫЯ ЗЕРНІ, КАЛІ ЁН ДАСЯГАЕ ПАЎНАЛЕЦЦЯ.
ГЭТА **ЧАКАНА** АД ІХ. ТРАДЫЦЫЙНЫ АБРАД ПАСВЯЧЭННЯ, ЯКІ МАЕ СВАЮ ГІСТОРЫЮ... АЛЕ ГЭТА ДОЎГІ РАСКАЗ.


У МЯНЕ ЁСЦЬ ЧАС.


OINK!
ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ, А ЧАМУ Б І НЕ?
УЛАДКОЎВАЙСЯ ЗРУЧНЕЙ, МУХАЛОЎ, І Я РАСКАЖУ ТАБЕ КАЗКУ.

«ДАЎНЫМ-ДАЎНО Ў РОДНЫХ ЗЕМЛЯХ, КАЛІ БОЛЬШАСЦЬ ВЕРЫЛА, ШТО Ў ІХ ЁСЦЬ ШАНЦ ПЕРАМАГЧЫ АРМІІ ВОРАГА, ЯКІЯ ЎВАРВАЛІСЯ НА ЗЕМЛІ, КАРАЛЕЎСТВА ЛІЛІПУТАЎ БЫЛО СЯРОД ТЫХ, ХТО НАВАЖНА ЖАДАЎ УНЕСЦІ СВОЙ УКЛАД».

«ВОСЬ ЯНЫ САБРАЛІ НЕВЯЛІКАЕ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЕ ДОБРААХВОТНІКАЎ, НАЗВАЛІ ЯГО ПЕРШЫМ ЭКСПЕДЫЦЫЙНЫМ І ВЫЗВАЛЕНЧЫМ КОРПУСАМ ЛІЛІПУТЫІ... І АДПРАВІЛІ, З АДПАВЕДНАЙ ПАМПЕЗНАСЦЮ І ПЫШНАСЦЮ, НА ДАПАМОГУ Ў ВАЙНЕ».

БУДЗЬЦЕ ЎВАЖЛІВЫМІ!

АБАВЯЗКОВА КОЖНЫ ДЗЕНЬ ПЕРААПРАНАЙЦЕ ШКАРПЭТКІ! ТРЫМАЙЦЕСЯ ПАДАЛЕЙ АД ЗАМЕЖНЫХ ДЗЯЎЧЫНАК!

ДАЙ НАМ ВЫПАДАК ГАНАРЫЦЦА ТАБОЙ, СЫН!

# Нявесты з ячнага зерня

Bill Willingham: writer-creator
Linda Medley: artist
Todd Klein: letters
Daniel Vozzo: color and seps
James Jean: cover art
Mariah Huehner: asst. ed.
Shelly Bond: editor







*ОД – СМЯРОТНЫ, ПА АДНЫХ ЛЕГЕНДАХ – ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК, А ПА ІНШЫХ – УВАСАБЛЕННЕ БОГА ОДЫНА Ў СМЯРОТНЫМ ЦЕЛЕ.






ПРАЧНУЎСЯ НАРЭШЦЕ.
ЗАРАЗ МЫ МОЖАМ ПАГУТАРЫЦЬ.
«ПАЛКОЎНІК ВУДЭРШЭНКС ШМАТ ГАДЗІН ДАПЫТВАЎ ПАЛОННАГА».










«ДОЎГІЯ МЕСЯЦЫ ЯНЫ ВАНДРАВАЛІ, БРАЛІ ЕЖУ Ў МЯСЦОВЫХ ЖЫХАРОЎ І ТРЫМАЛІСЯ ПАДАЛЕЙ АД ВАЙНЫ».
МЫ ПАКІДАЕМ ГЭТА МЕСЦА. ВОЙСКІ ВОРАГА ХУТКА БУДУЦЬ ТУТ.
АЛЕ КУДЫ ВЫ МОЖАЦЕ **ПАЙСЦІ**, ДЗЕ ЯГО АРМІЯ НЯ ЗМОЖА ПРАСАЧЫЦЬ ЗА ВАМІ?

МЫ ЧУЛІ ПРА БРАМУ Ў НОВЫ ЧАРОЎНЫ СВЕТ. БЯСПЕЧНАЕ **СХОВІШЧА**.
ПЕРАДАЙЦЕ СВАЙМУ ПАЛКОЎНІКУ, ШТО МЫ І ВАС ЗАПРАШАЕМ. АЛЕ НЕ ЗАЦЯГВАЙЦЕ, МЫ ВЫХОДЗІМ **СЁННЯ**.

«І НЯ СТАЛІ ЯНЫ МАРУДЗІЦЬ. ЯНЫ ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА АДНОЙ З ГРУП КАЗАЧНЫХ, ЯКІЯ ПРАКЛАДАЛІ ШЛЯХ ДА НОВАГА СВЕТУ».

І ЯНЫ ПРЫЙШЛІ СЮДЫ І ЗАСНАВАЛІ СМОЛТАЎН НА ФЕРМЕ?
АГА, АЛЕ БЫЛА АДНА ВЯЛІКАЯ ПРАБЛЕМА, ЯКАЯ АМАЛЬ АДРАЗУ СТАЛА ВІДАВОЧНАЙ.

«ЭКСПЕДЫЦЫЙНЫ КОРПУС ЛІЛІПУТЫІ СКЛАДАЎСЯ З АДНЫХ МУЖЧЫН».
ЯК ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ НАЗВАЦЬ ВАШ НОВЫ ДОМ?
Я ЛІЧУ, ШТО МЫ СПЫНІЛІСЯ НА **СМОЛТАЎНЕ**.
Я ГАЛАСАВАЎ ЗА СМОЛВІЛЬ, АЛЕ ЎСЕ АСТАТНІЯ ВЫРАШЫЛІ, ШТО ГЭТА НЕДАРЭЧНА.







«ПРАЙШЛІ ГАДЫ БЕЗ ЖАНЧЫН У НЯШЧАСНЫМ СЕЛІШЧЫ СМОЛТАЎНА... ПАКУЛЬ НЕ З'ЯВІЛАСЯ ПЯРСЦЯНАЧКА, ЯКАЯ ТАКСАМА РАТАВАЛАСЯ СА СВАЁЙ ДАЛЁКАЙ РАДЗІМЫ».

ВІТАЮ. УРАД ФЭЙБЛТАЎНА СКАЗАЎ, ШТО Я ЗАСТАНУСЯ ТУТ, ТАМУ ШТО МЫ... ХМММ... АДНАГО ПАМЕРУ.

ДЗЯЎЧЫНКА? **САПРАЎДНАЯ** ДЗЯЎЧЫНКА?

ГЭТА НЯ ПРОСТА **ДЗЯЎЧЫНКА**, ХЛОПЕЦ. ГЭТА САМАЯ САРАЎДНАЯ **ЖАНЧЫНА**!

БОЖАЙ МОЙ!

ДЫ ЯШЧЭ І РАСКОШНАЯ!


«І, ЗРАЗУМЕЛА, ГЭТА ТОЛЬКІ ПАГОРШЫЛА СІТУАЦЫЮ».
ВЫДАТНЫ ДЗЕНЬ, МІС ПЯРСЦЯНАЧКА.
ВЫ ВЫГЛЯДАЕЦЕ, ЯК ТРУСКАЎНЫ ПІРОГ. МАБЫЦЬ Я МАГУ ПАЗНЕЙ ЗАПРАСІЦЬ ВАС...


«БЕЗ ЖАНЧЫН БЫЛО ДРЭННА. АЛЕ ТОЛЬКІ АДНА ЖАНЧЫНА...»
«І КОЖНЫ МУЖЧЫНА ВЕДАЎ, ШТО ТОЛЬКІ АДЗІН З ІХ ЗМОЖА ЗАВАЯВАЦЬ ЯЕ... НУ, ГЭТА БЫЛО НЯСЦЕРПНА».


ХТО-НЕБУДЗЬ ВЕДАЕ, ЧАМУ ЯНЫ Б'ЮЦЦА?
ПАСПРАБУЙ ЗДАГАДАЦЦА.
ЗА КАГО **ЎСЕ** Б'ЮЦЦА?


«УСЕ БЫЛІ НЯШЧАСНЫЯ, АЛЕ САМАЙ НЯШЧАСНАЙ БЫЛА НАША КАРАЛЕВА БАЛЮ».


«ТРЭБА БЫЛО ШТО-НЕБУДЗЬ РАБІЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ ГЭТЫЯ КУЛАЧНЫЯ БОЙКІ НЕ ПЕРАТВАРЫЛІСЯ Ў СМЯРОТНЫЯ ДУЭЛІ, А СІНЯКІ – Ў КРОВАПУСКАННЕ».
Я ПРАПАНУЮ НАНЯЦЬ ВЯДЗЬМАРАК І ЧАРАЎНІКОЎ ФЭЙБЛТАЎНА, КАБ ЗАЧАРАВАЦЬ УСІХ У СМОЛТАЎНЕ... ВЫРАСЦІЦЬ НАС ДА ТАКІХ ЖА ПАМЕРАЎ, ЯК І ЗВЫЧАЙНЫЯ ЛЮДЗІ.
АЛЕ...
ЦІ З ГЭТАГА МОМАНТУ **ПАМЕНШЫЦЬ** ДА НАШАГА ПАМЕРУ **ЖАНЧЫН**, ЯКІЯ ПРЫБЫВАЮЦЬ У РОДНЫХ ЗЕМЛЯХ.
МЫ НЯ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ГЭТАГА!
І МЫ **НІКОЛІ** НЯ СТАЛІ Б РАСПАРАДЖАЦЦА ПРА ТАКОЕ, НАВАТ КАЛІ Б МАГЛІ.

«Магчымае вырашэнне іх спрэчкі з'явілася нечакана».

Так мая названая маці пасадзіла гэту костачку ці ячнае зерне ў вазон.

«Да таго часу кожны ведаў гісторыю Пярсцяначкі, як яна з'явілася на свет».

І вырас **цюльпан**, а з яго распусцілася я.

«І тая ж старая добрая вядзьмарка, якая дала жанчыне ячнае зерне, каб тая вырасціла сабе дачку, таксама ратавалася ад ворага і нават жыла ў Фэйблтаўне».

О так, начальнік Воўк, быў у мяне поўны **слоік** гэтых чароўных зярняткаў... **па самыя берагі**.

Але я не ўзяла іх з сабой. Вельмі шмат яшчэ несці трэба было.

Думаю, што слоік можа **быць** яшчэ дзесьці там у маёй старой хаце.

«Чутка пашырылася... як і заўсёды... і хутка дайшла да фермы, да вушэй Джоні Булхорна, маладога, адважнага і задзірлівага хлопца».

У мяне ёсць ідэя.

Што такое, Джоні?




«І ПАСЛЯ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІХ ПАЖАДАННЯЎ І БЯЗВІННАГА ПАЦАЛУНКУ АД ПЯРСЦЯНАЧКІ, ДВОЕ АДВАЖНЫХ КАЗАЧНЫХ АДПРАВІЛІСЯ Ў СВАЁ ВЯЛІКАЕ ПАДАРОЖЖА».

УПЕРАД ДА РАНІЦЫ?

ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ ГЭТАГА.


«ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ НАЗАД У РОДНЫЯ ЗЕМЛІ ПРАЗ БРАМУ «ОЎК ХОЛОЎС». ГЭТА АДБЫЛОСЯ ПРЫКЛАДНА ЗА СОРАК ГАДОЎ ДА ТАГО, ЯК ВЯДЗЬМАКІ ВОРАГА ЗНАЙШЛІ І ЗНЫШЧЫЛІ БРАМУ».


«І, ЯК ЯНЫ І ЖАДАЛІ, ЯНЫ ПЕРАЖЫЛІ ШМАТ ПРЫГОД».
«ЯНЫ БЫЛІ НА ВАЛАСОК АД ЗГУБЫ».


«СУСТРЭЛІСЯ З БЯЗЛІТАСНЫМ НАДВОР'ЕМ».


«І З МНОСТВАХ ІНШЫХ ЦЯЖКАСЦЯЎ».
ДЫК ТЫ І НА ЗУБОК МНЕ НЯ ЛЯЖАШ.
ПАДЫЙДЗІ **БЛІЖЭЙ** І ПАГРЫЗІ ЦАЛЮ ВЫДАТНАЙ МІЛДЭНДАНСКАЙ СТАЛІ.


ШТО ТУТ ЗДАРЫЛАСЯ?
ГОСЦЬ ЖАДАЎ ПАДЗЯЛІЦЬ З НАМІ **ТРАПЕЗУ**, АЛЕ НЯ ЗМОГ ЗАСТАЦЦА.
БА! ЁН УСЁ РОЎНА БЫЎ ВЕЛЬМІ МАЛЕНЬКІ, ІМ НЕ НАЯСІСЯ.










«А КАЛІ ПРАЙШОЎ ГОД, А ПОТЫМ ЯШЧЭ АДЗІН, МЫ ПРАВЯЛІ ПАМІНАЛЬНУЮ СЛУЖБУ. ЯНА ПРАЙШЛА НА ФЕРМЕ, ТАМУ Я НЯ ЗМОГ ПРЫЙСЦІ».

JOHNNY BULLHORN SMALLTOWN HERO

ARROW COMMANDER OF THE AIR PATROL

МЫ САБРАЛІСЯ ТУТ ПА ПРЫЧЫНЕ ЖУРБОТНАЙ ПАДЗЕІ, КАБ УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ ДЗВУХ ГЕРОЯ НАШАГА НАРОДУ.

«АДНАК МЫ ПАМЫЛЯЛІСЯ. ЯНЫ БЫЛІ ЖЫВЫЯ. АЛЕ ПРОЙДЗЕ НЕКАТОРЫ ЧАС, ПЕРШ ЧЫМ МЫ ДАВЕДАЕМСЯ ПРА ГЭТА».

ГЭТА **ЁН**, ЭРОЎ? МЫ, НАРЭШЦЕ, ПРЫБЫЛІ?

ЗДАЕЦЦА, ШТО ТАК, ДЖОНІ.

АЛЕ, ЗДАЕЦЦА, ТУТ БОЛЬШ НІХТО НЕ ЖЫВЕ.

ДОБРА.

У ТАКІМ ВЫПАДКУ НІХТО НЕ ПЕРАШКОДЗІЦЬ НАМ ЗАБРАЦЬ СКАРБЫ.

І ЯКІЯ **ГЭТА** МОГУЦЬ БЫЦЬ СКАРБЫ?

ТУТ **ПУСТА**.

СКАРБАЎ НЯМА?

ЯНЫ **ЗНІКЛІ**! УСЕ ЗНІКЛІ!

ЯНЫ ДАЎНО ЎСЁ ЗАБРАЛІ!

ВОЙ!

**ВОСЬ** ЦЯПЕР ГЭТА ДЗІЎНА. НЯЧАСТА ЎБАЧЫШ РАЗМАЎЛЯЛУЮ **ГАРЧЫЧНІЦУ**.


НЕ **ГАРЧЫЧНІЦА** РАЗМАЎЛЯЕ, ЁЛУПНІ, А **Я**.
Э... А... **Я** ВЕДАЎ ГЭТА.


МЯНЕ ЗАВУЦЬ ПІТ. ПІТ ГАРЧЫЧНЫ.
ЭМММ... ДЖОНІ.
РАДЫ СУСТРЭЧЫ, ДЖОНІ. ПАЖМЕМ РУКІ!


ТЫ СКАЗАЎ, ШТО **ВЕДАЕШ**, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ СА СКАРБАМІ, ЯКІЯ ЗАХОЎВАЛІСЯ ТУТ?
АСАБЛІВА СА СЛОІКАМ З ЧАРАДЗЕЙНЫМІ **ЯЧНЫМІ ЗЕРНЯМІ**.
О, **БЕЗ-УМОЎНА**.
УЖО ГАДЫ ПРАЙШЛІ, ЯК ПРЫЙШЛІ САЛДАТЫ І ЎСЁ ЗАБРАЛІ.


ЗАБРАЛІ ЎСЁ Ў НЕЙКУЮ ВЯЛІКУЮ КРЭПАСЦЬ НА ЎЗГОРКАХ... РАЗАМ З КОЖНАЙ ЧАРАДЗЕЙНАЙ РЭЧЧУ Ў ГЭТЫХ ЗЕМЛЯХ.
НАМ, ЗВЫЧАЙНЫМ ЖЫХАРАМ, БОЛЕЙ НЕ ДАЗВОЛЕНА ВАЛО-ДАЦЬ ЧАРАДЗЕЙНЫМІ РЭЧАМІ.


Я ЗДЗІЎЛЕНЫ, ШТО ТЫ ГЭТАГА НЯ ВЕДАЕШ.
МЫ НЯ З ГЭТЫХ МЕСЦАЎ.
SWIPE!
SWIPE!
SWIPE!

«**КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ** –ДЖОНІ І ЭРОЎ ЎЗЯЛІ ПІТА З САБОЙ У ШЛЯХ ЗА ЯЧНЫМІ ЗЕРНЯМІ, І ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ З ІМІ НА ФЕРМУ».

ВОСЬ ЯНА, ХЛОПЦЫ! ЯК Я І **КАЗАЎ**!

«ПІТ СПАЧАТКУ АДМОВІЎСЯ ПАКІДАЦЬ СВАЮ ЗРУЧНУЮ ГАРЧЫЧНІЦУ, АЛЕ, НАРЭШЦЕ, ЗГАДЗІЎСЯ, КАЛІ ЯНЫ СКАЗАЛІ ЯМУ, ШТО ШМАТ ТАКІХ ЖА АКУРАТНЫХ І ЗРУЧНЫХ ГАРШЧКОЎ МОЖНА ЗНАЙСЦІ Ў НОВЫМ СВЕЦЕ».

**ЙА–ХУ!** Я ЗБІРАЮСЯ ТАКСАМА ШТО–НЕБУДЗЬ ЗАБРАЦЬ З САБОЙ!

ТСССС!

МЕРКАВАЛАСЯ, ШТО ГЭТА САКРЭТНАЯ АПЕРАЦЫЯ.

ШТО **ГЭТА** ЗНАЧЫЦЬ?

МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ **СКРЫТНЫМІ**.

ЦІКАВА, ЯКУЮ ЗВЯРУГУ–ПАЧВАРУ ЯНЫ ПАСАДЗІЛІ, КАБ АБАРАНЯЦЬ ГЭТА МЕСЦА?

ЁСЦЬ МОНСТР–ВАРТАЎНІК?

А Я ХІБА ПРА ГЭТА НЕ ЎЗГАДВАЎ?

СВЯТЫЯ ЎГОДНІКІ!

ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО МЫ ПЕРАЖЫЛІ, ЭРОЎ! ГЛЯДЗІ!

ЦІШЭЙ, ВЫ **АБОДВА!** ХТО ВЕДАЕ, ШТО МОЖА ХАДЗІЦЬ ТУТ ПОБАЧ.


ВЫ, ХЛОПЦЫ, ПРЫЙШЛІ СЮДЫ, КАБ АБРАБАВАЦЬ МЯНЕ?
**АЙ-ЯЙ!**
ВОЙ-ЕЙ! ЦЯПЕР МЫ ВЫРАЧАНЫ!


НЕ! **СУМЛЕННА**! МЫ ПРОСТА ЗАЙШЛІ ПАВІТАЦЦА!
ГЭТЫЯ СКАРБЫ ЎСЕ **ВАШЫ**, СПАДАР МЯДЗВЕДЗЬ?
ТОЛЬКІ Ў ТЫМ СЭНСЕ, ШТО МЯНЕ ПАСТАВІЛІ СЮДЫ, УКАЗАМ МЯС-ЦОВАГА ІМПЕРСКАГА ГУБЕРНАТАРА, КАБ АБАРАНЯЦЬ ІХ.


ШТО ВЫ СПАДЗЯВАЛІСЯ ЗНАЙСЦІ ТУТ?
СЛОІК З ЧАРАДЗЕЙНЫМІ ЯЧНЫМІ ЗЕРНЯМІ.
ААА, **ГЭТЫЯ**. ЯНЫ ТАМ, НА ТРЭЦЯЙ ПАЛІЦЫ.
ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ДАЦЬ НАМ **ЗА-БРАЦЬ** ІХ?


ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ **З'ЕСЦІ** НАС?
НІКОЛІ Я ВАС НЯ З'ЕМ. Я АБВЫК ДА ЛЕПШАЙ **КУЛІНАРЫІ**, ЧЫМ ВЫ МОЖАЦЕ САБЕ ЎРАЗІЦЬ.


НА САМОЙ СПРАВЕ Я МАГУТНЫ ВЯДЗЬМАР... НУ, ЦЯПЕР Я **БЫЛЫ** КАРОЛЬ. МЯРКУЕЦЦА, ШТО Я ПЕРАТВАРУ ПАРУШАЛЬНІКАЎ У ЖАБ, ЦІ ПАРЦАЛЯНАВЫЯ СТАТУЭТКІ, ЦІ...
Я НЕ ЖАДАЮ БЫЦЬ НІЯКАЙ ЖАБАЙ!
ЖАБЫ **ЯДУЦЬ** ЖУКОЎ!










ГЭТА НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ВЕЛЬМІ БАЛЮЧА, КАМАНДОР ЭРОЎ.

БОЖА МОЙ.







«І ГЭТАЙ ЖА ВЯСНОЙ ПАСПЕЎ ВЯЛІКІ ЎРАДЖАЙ ЯЧНЫХ ДЗЯЎЧЫНАК».

«ПЯЦЬ ПАР АЖАНІЛІСЯ Ў ГЭТЫ ДЗЕНЬ. А ПОТЫМ БЫЛО ЯШЧЭ ШМАТ ВЯСЕЛЛЯЎ».

«ЧАРАДЗЕЙНЫ МЯДЗВЕДЗЬ АДДАЎ ЭРОЎ ЯГО КРЫЛЫ І НЕКАЛЬКІ СТАГОДДЗЯЎ ПРАЖЫЎ НА ФЕРМЕ, ПЕРШ ЧЫМ ПАЖАДАЎ ПЕРАСЯЛІЦЦА Ў ГОРАД».

«ЁН ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў СПАДАРА ГРАНДУРСА, ЯКІ ЖЫВЕ НА ДЗЯСЯТЫМ ПАВЕРСЕ».

«ПІТ ЗНАЙШОЎ САБЕ ІНШУЮ ЎТУЛЬНУЮ ПАКІНУТУЮ ГАРЧЫЧНІЦУ І ПЕРАЕХАЎ ТУДЫ».

«А ЮНАКДЖОНІ БУЛХОРН З ГЭТАГА ДНЯ СТАЎ ВЯДОМЫМ ЯК ДЖОН – ЯЧНАЕ ЗЕРНЕ».

«З ІМ АДБЫЛОСЯ ЯШЧЭ ШМАТ ПАДЗЕЙ, ЯКІЯ МОЖНА ПАВЕДАВІЦЬ У НАСТУПНЫ РАЗ».

ПАСЛЯ ПЕРШАГА ЎРАДЖАЮ Ў СМОЛТАЎНЕ З'ЯВІЛАСЯ БОЛЬШ ЧЫМ ДАСТАТКОВА ЖАНЧЫН, КАБ РАБІЦЬ БОЛЬШ ХЛОПЧЫКАЎ І ДЗЯЎЧЫНАК ЗВЫЧАЙНЫМ СПОСАБАМ.

ТАКІМ ЧЫНАМ СЛОІК З АСТАТНІМІ ЯЧНЫМІ ЗЕРНЯМІ ПЕРАНЕСЛІ СЮДЫ, КАБ ЗАХОЎВАЦЬ ЯГО З УСІМІ АСТАТНІМІ ЧАРАДЗЕЙНЫМІ РЭЧАМІ.

ROBBERY
BURGLARY
GRAND THEFT
LARCENY
PLAGIARISM

АЛЕ ХЛОПЦЫ ЁСЦЬ ХЛОПЦЫ. І ХУТКА ГЭТА СТАЛА ТРАДЫЦЫЯЙ СМОЛТАЎНА – КОЖНАМУ МАЛАДОМУ ЧАЛАВЕКУ ТРЭБА ПРАКРАСЦІСЯ СЮДЫ І ХОЦЬ РАЗ ПАСПРАБАВАЦЬ ЗАХАПІЦЬ САБЕ ЯЧНУЮ НЯВЕСТУ, ПЕРШ ЧЫМ ВЯРНУЦЦА ДАДОМУ І АЖАНІЦЦА З ДЗЯЎЧЫНКАЙ ПА СУСЕДСТВУ.

НАВОШТА?

ЛІЧУ, ГЭТАМУ ЁСЦЬ ШМАТ ПРЫЧЫН. ЖАДАННЕ ПАВЯЛІЧЫЦЬ СТАТУС У СУПОЛЬНАСЦІ, ЗЫМІТАВАЎШЫ ТОЕ, ШТО ЗРАБІЎ ДЖОН «ЯЧНЕВАЕ ЗЕРНЕ».

І ІСНУЕ МЕРКАВАННЕ, ШТО ЯЧНЫЯ ДЗЯЎЧЫНКІ ЗНАЧНА ПРЫГАЖЭЙ ЗА ЗВЫЧАЙНУЮ НАРМАЛЬНУЮ ДЗЯЎЧЫНКУ – **ХОЦЬ** ІХ ПАМЕРУ, **ХОЦЬ** НАШАГА.

АКЕЙ, МУХ, ТЫ АТРЫМАЎ СВАЮ ГІСТОРЫЮ. НАМ АБОДВУМ ЁСЦЬ, ЧЫМ ЗАНЯЦЦА.

ДЗЯКУЙ, ШЭРЫФ. ВЕДАЕЦЕ, ВЫ ЗУСІМ НЕ ТАКІ АГІДНЫ, ЯК УСЕ КАЖУЦЬ... ЭЭЭ, Я ЦЯПЕР ВЯРТАЮСЯ ДА ПРАЦЫ.

THE END.

**ДАЛЕЙ:**
МАРК БУКІНГЕМ І СТЫЎ ЛЭЙАЛОА ВЯРТАЮЦЦА, ДА НОВАЙ ГІСТОРЫІ, У ЯКОЙ ГАЛОЎНУЮ РОЛЮ ЗАДАЕ ТАЯМНІЧАЯ ЖАНЧЫНА Ў ЧЫРВОНЫМ.

# Падтрымай праект!

Наш праект перакладаў коміксаў на беларускую мову існуе больш за 5 гадоў. Існуе ў асноўным за кошт уласных сродкаў. На сёння аплата хостынгу за 3 месяцы каштуе 18 рублёў. Калі жадаеце дапамагці праекту, жадаеце, каб сайт працягваў існаваць, вы можаце падтрымаць праект ахвяраваннямі на кошык EasyPay 32032502. Усе ахвяраванні будуць накіраваны на аплату хостынгу.

EasyPay

32032502

ComicsBY.by